Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 23. Вільня, Пятніца, 21-га лістапада 1924 г. Год I.

## Наша будучына.

Ведае польская ўлада, што яна робіць, пазбаўляючы матурыстаў беларускіх гімназіяў правоў і зачыняючы перад імі дзьверы вышэйшых школ у Польшчы.

Ведае, бо-ж гэтая моладзь, якая канчае сярэднія і вышэйшыя школы,— гэта *будучына нашага народу*, гэта культурныя павадыры яго і ўзгадавальнікі новых, усё больш і больш чысьленых пакаленьняў беларускае народнае інтэлігенцыі. А чым крапчэйшыя будуць нашы культурныя сілы, чым больш будзем мы мець сваей інтэлігенцыі, неразрыўна душой і целам зьвязанай з беларускай масай, тым лягчэй нам будзе змагацца за самае істнаваньне нашага народу, за яго *волю, долю і шчасьце*.

І ўсё-ж такі рады нашае інтэлігенцыі гусьцеюць. Кожын год нашыя гімназіі выпускаюць дзесяткі маладых хлапцоў і дзяўчат, якія, пранікнуўшыся любасьцяй і пашанай да роднае культуры, прарываюцца праз усе кардоны і, пазбаўленыя права вучыцца ў вышэйшых школах Польшчы, едуць здабываць далейшую навуку заграніцу.

У аднэй толькі Празе чэскай вучыцца каля 150 беларускіх студэнтаў. Дый чуць што не па ўсіх краінах Эўропы параскіданы па адным—па два беларускія студэнты, якія былі прымушаны кінуць родны край дзеля недаступнае для іх дома вышэйшае навукі.

Праўда, ёсьць і ў Вільні каля сотні студэнтаў-беларусаў, але блізу ўсе яны канчалі *польскія* гімназіі і толькі затым і былі прыняты ў польскі ўнівэрсытэт. І толькі невялікая частка іх суліць нашаму народу пацеху з іх будучае працы: узгадаваныя ў польскіх сярэдніх школах, яны, пераважна, стаяць здалёк ад беларускага жыцьця і ад барацьбы нашага народу за родную культуру і волю.

Найвялікшым цэнтрам, дзе ўзгадовываецца беларуская студэнцкая моладзь, зьяўляецца бязспрэчна Менск. Так, у гэтую восень у вышэйшыя школы Радавае Беларусі прынята 642 беларусы. Дый да гэтага трэба дадаць тых, якія паступілі ў розныя другія ўнівэрсытэты СССР.

Калі цяпер прыгледзімся да абліча ўсяе гэтае нашае моладзі, то з вялікім жалем прыдзецца сказаць, што як-раз там, дзе беларускай моладзі выпала шчасьце вучыцца ў *сваім* унівэрсытэце, яна найменш выяўляе сваю нацыянальную душу. У Празе выходзяць дзьве *беларускія часопісі*, выдаваныя беларускімі студэнтамі. У Вільні былі роблены спробы ў гэтым кірунку ў мінулыя гады, дый гэтымі днямі ўзнаўляецца выдаваньне студэнцкае часопісі ў *беларускай* мове. А ў Менску... сорам сказаць: беларускія студэнты выпускаюць часопісь у *расейскай* мове, ды толькі дзеля прыкрасы даюць пару стацей пабеларуску, і то—як прызнаецца „Сав. Беларусь"— напісаных прост *бязграматна*!

Што гэта значыць? Няўжо-ж наша студэнцкая моладзь у сталіцы Беларускае Рэспублікі не дарасла дагэтуль нават да таго, каб мець свой беларускі орган? Няўжо-ж тамтэйшыя беларускія дзеячы, занятыя агульна-дзяржаўнымі справамі, зусім закінулі ўзгадаваўчую працу сярод свайго студэнцтва?

Гледзячы на тое, што прадстаўляе беларускае студэнцтва на Усходзе, перш за ўсё прыходзе думка, што заходнія іх таварышы самавызначаюцца гэтак ярка з нацыянальнага боку затым, што ўвесь час жывуць у *стане барацьбы* за сваё нацыянальнае „я". Ужо сямілетні хлопчык падлягае ломцы ў чужацкай школе, куды яго заганяюць прымусам. Ен бачыць сьлёзы бацькоў, караных штрафамі і арыштам за праціўленьне школьнаму прымусу—да чужое школы. І ён навучаецца іншымі вачыма глядзець на ўсё роднае, чым такі-ж хлопчык беларускі на Усходзе, якому, так-сказаць, *дарма* даецца ўсё тое, аб чым лятуцім мы тут, на Захадзе. Гэтая пастаянная барацьба за сваю нацыянальнасьць і выпрацовывае ў нашай заходняй моладзі тую нацыянальную сьвядомасьць, якая вядзе яе па дарозе нацыянальнае творчасьці—у роднай мове сваей.

Але трэба тут адзначыць, што і на Усходзе ў вышэйшых школах Беларусі пануе пераважна *расейская* мова. І там, хоць шмат слабей, йдзе барацьба за нацыянальную культуру, толькі ня гэтулькі на „нізох", як на „вярхох" грамадзянства. І там яшчэ перад намі вялізарны, шырачэнны прастор да працы, да завяваньняў для роднае мовы, роднае культуры. Што-ж рабіць, каб барацьба за беларушчыну на вышэйшых ступенях культуры йшла тамака з вялікшай для нас карысьцяй?

Раз у нашага ўсходняга студэнцтва не хватае энэргіі і размаху ў барацьбе за нацыянальную культуру,—дык трэба было-б *узмацаваць яго сьвежымі і нацыянальна выробленымі сіламі з Захаду*. Ужо ў гэтым школьным годзе канчае вышэйшыя школы і ў Чэхаславакіі, і нават у Польшчы рад беларускіх студэнтаў, вывяўшых сябе, як паважныя культурныя працаўнікі. Вось, нам і здаецца, што дзеля агульна-беларускае карысьці яны павінны быць *выкарыстаны ў першы чарод дзеля працы на Усходзе*.

Наша будучына—наша моладзь—павінна кавэць долю ня толькі сваей часьціны Бацькаўшчыны, а ўсяе нашае супольнае Бацькаўшчыны—*усяе Беларусі*!

## Цэнтральная Беларус. Школьная Рада

гэтым заклікае ўсіх сяброў Т-ва Беларускай Школы ў Вільні на агульны сход 30-га гэтага лістапада а 2-ой гадзіне вечара ў памешканьні Ц.Б.Ш. Рады (Вільня, Віленская 12, пам. 6). Калі на азначаны час ня прыбудзе ўстаноўленага ліку сяброў, агульны сход адбудзецца 14-га сьнежня гэтага-ж году а тэй самай гадз. ў памешканьні Школьнай Рады, бяз увагі на лік прыбыўшых сяброў. Парадак спраў: 1) Справаздача за мінуўшы год, 2) Давыбары сяброў Школьнай Рады і 3) Бягучыя справы.

*Цэнтр. Беларуская Школьная Рада.*

## Да каапэратараў-беларусаў.

У нумары 15 „Сялянскай Праўды" ў артыкуле „Барацьба за каапэрацыю" сказана, што Урад былога самастойнага Віленскага Саюзу згодзіўся на жаніцьбу з польскай арганізацыяй „Związek Ziemi Wileńskiej". Вось-жа лічу сваім абавязкам высьніць, што гэтае вясельле зрабіў на сваю руку адзін сябра Ураду, Б., у згодзе з былым „тайным саветнікам двара яго вялічаства". Рэшта сяброў Ураду была проціў гэтага, ведаючы менскія рэзультаты яшчэ ў 1919/20 г.

Злучэньне двох саюзаў рабілася на жаданьне польскага саюзу „Społem". Апошні ўжо даўно вёў „офэнзыву" з гэтай мэтай, ды гэта ўрэшце яму і ўдалося, пры помачы некаторых вельмі „ляяльных" беларусаў ды насланых з Варшавы агентаў яго. Галоўную ролю ў першым „націску" зрабіў нейкі Вольскі.— Гэны Вольскі, залезшы ў Саюз, сваей дзеяльнасьцяй і рознымі хітрыкамі руйнаваў Саюз, а ў той самы час польскі саюз „Społem" папраўляў свае справы на беларускім семі і льне, таргуючы на Беларусі, з кім папала і чым папала, каб вырабіцца з даўгу англічанам, у якім быў, „як у шаўку". Відаць, што на Беларусі добра таргаваць, бо „сполэмскім" каапэратарам-закупшчыкам пры гэтай дзеяльнасьці ўдавалася паправіць і сваі маёнткі ў Наваградчыне...

Аднак, тады разваліць Віленскі Саюз Каапэратываў не ўдалося.

Пасьля двух гадоў цяжкай працы Віленскі Саюз ізноў стануў на ногі і пачаў непакоіць „каапэратараў з Вялікай Пагулянкі" (польскі саюз у Вільні), а калі Урад Саюзу паставіў на парадак дня прылучэньне да Работніцкага Саюзу, дык тады гэны варшаўскі саюз „Społem" вельмі занепакоіўся і выслаў сваіх агентаў на падмогу тутэйшым паляком.

В. Пагулянка пачала „вырабляць" у Улады для В. С. К. няцікавую „апінію", а „сполэмскія" агенты сваімі выпрабаванымі мэтадамі пабілі ўсё, што можна, каб толькі злучыць В. С. К. з польскім саюзам. І ўрэшце злучылі, а злучыўшы, прыняліся за „ачыстку" Саюзу ад „warchołów" (гэта значыць ад беларусаў!", і, калі гэтае было зроблена, пасадзілі свайго „Пана", як сваё вока.

Рада „аб'яднанага" Саюзу, якая складалася з „сваіх" і беларусаў орыентацыі „сядзі і ня рыпайся", выпаўняла, што „Пан" прыказываў, ігнаруючы ўсе пастановы зьезду і справядлівыя жаданьні каапэратываў.

Урэшце, на апошнім зьезьдзе паўнамоцнікаў, адумысна падтасаваным гэным „пакорным" Урадам, выкінулі і гэных беларускіх угадоўцаў з Ураду, і Саюз апынуўся ў руках адных толькі палякоў, чаго тыя і дабіваліся.

У сучасны мамэнт, калі Урад Саюзу змушаны склікаць зьезд, ён ізноў выпісывае „спэцыяліста" — гэтага самага Вольскага і пасылае яго ў „небясьпечныя" мейсцы, каб у беларускай мове пяяў пахвальныя гімны польскаму кіраўніцтву Саюзу.

За гэты час шмат каапэратываў пазачынялася зусім, другія-ж перайшлі ў рукі гандляроў. Урад Саюзу не паслаў Вольскага чытаць лекцыі ў „Зьедначэньне", якое зрабіла адразу ажна чатыры крамы чыста гандлярскага тыпу, але некалі было вернай апорай паноў „тайных саветнікаў". Вольскага паслалі ў тыя мейсцы, гдзе яснавельможныя „саветнікі" ня могуць паткнуць свайго носа!

Трэба думаць, што сучасны крызіс у беларускай каапэрацыі крые ў сабе прычыны чужацкай, ня прошанай „апекі". Але ў гэтакай важнай справе не павінны беларускія каапэратары сядзець, злажыўшы рукі, а павінны выступіць дружнай грамадой на будучым зьезьдзе і салідарна выцягнуць каапэрацыю з таго балота, у якім яна загразла, на шырокі шлях.

У еднасьці сіла, павіна быць перш за ўсё паміж беларусамі, каб ня дацца засільлю чужынцаў. Патрэбна еднасьць у дружнай рабоце на зьезьдзе. Трэба ўзяць сваі справы ў сваі рукі.

Мы бачым прыклад у ўкраінцаў. Украінская каапэрацыя сама сваімі ўласнымі сіламі і людзьмі вядзе работу. Там няма „апякуноў", няма мейсца і для розных Вольскіх ды „тайных саветнікаў". І затым-то ўкраінская каапэрацыя моцная.

А мы — няўжо-ж мы ўжо нічога ня варты і ня можам вызваліцца ад „апекі" яснавяльможных?!

**Каапэратар.**

# Інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу.

**№ 124**—да п. міністра ўнутраных спраў у справе заняцьця паліцыяй дому Міхала Пігаса ў пасадзе Альбэртын, Шылавіцкае гм., Слонімскага пав.

Ніжэй падаем зьмест паданьня Міхала Пігаса, жыхара пасады Альбэртын, Шылавіцкае гм., Слонімскага пав.:

„У 1921 годзе ў месяцы студзені пастарунак паліцыі выкінуў у маім доме кватарантаў і заняў палову дому, зложаную з 2 пакояў і кухні, дый па сёньняшні дзень займае памяшчэньне; за ўвесь гэты час я дастаў ад паліцыі, як плату за кватэру, 65½ тысяч польскіх марак.

„Аднак, я прымушаны плаціць усялякія дзяржаўныя і гмінныя падаткі і падатак ад даходу, якога ня маю, хоць павінен мець 3 кватэты, занятай пастарункам.

1) Я пісаў паданьне да п. начальніка павятовае дзяржаўнае паліцыі ў Наваградку, а дказу не дастаў.

2) Пісаў да п. наваградзкага ваяводы; першага мая 1922 г. пад № 210 Kg дастаў паперу з дамаганьнем заплаты 20 марак гэрбавага збору, якія ўраз-жа і паслаў; але адказу ніякага ня маю.

3) Пісаў да п. міністра ўнутраных спраў; дастаў 31 студзеня 1923 году за № B S 45 паперу з дамаганьнем 200 марак штэмплёвае аплаты, якія ўраз-жа выслаў, але станоўчага адказу не дастаў.

4) Пісаў да слонімскага староства і дастаў адказ 27/X. 1923 г., што пастарунак ня можа быць перанесены, а аб плаце за памяшчэньне — маўчанка.

5) Пісаў у Сойм і дастаў адказ з 26/VII. 1924 г. ад Беларускага Клюбу, каб пайсьці судовай дарогай. Суд II-га округу Слонімскага павету двойчы адмовіўся прыняць скаргу на дзяржаўную паліцыю.

„У апошні мамэнт я атрымаў павестку № 33/852 плаціць 352 зл. 80 гр. дзяржаўнага падатку, які буду прымушаны заплаціць.

„Дык цяпер, пазбаўлены бацькавае спадчыны, але прымушаны плаціць падаткі, ня маючы ніякае помачы ад дзяржаўнае ўлады, прашу ветла п. паслоў Беларускага Клюбу ласкава даць мне раду і дапамогу“.

Дзеля вышэйшага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. міністра 1) чаму польскія ўлады ня ўладзілі дагэтуль гэтае справы? 2) ці маніцца ён—ураз-жа загадаць звольніць памяшчэньне М. Пігаса?

Варшава, 6 лістапада 1924 г.

№ 125—да п. міністра рэлігійных вызнаньняў і народнае асьветы ў справе невыпаўняньня языковага школьнага ўставу, з 31 ліпня 1924 г.

Згодна з школьным уставам, сяляне Пяскоўскага школьнага абводу падалі школьнаму інспэктару ў Косаве паданьне аб ператварэньні істнуючае ў Пяскох польскае школы — у беларускую. Тымчасам, замест ператварыць польскую школу ў беларускую, школьны інспэктар грашавымі штрафамі і арыштамі пачынае прымушаць насяленьне пасылаць дзяцей у чужую для іх школу. Гэткім чынам пакараны штрафам па 100 злотых або 5 дзён арышту гэткія сяляне з в. Пяскі: Андрэй Панасюк, Павал Мастык, Піліп Жура, Мікалай Валошчык, Мікалай Воўк, Ян Токар, Марыя Дайновіч—і з вёскі Новыя Пяскі: Палагея Суміч.

Дзеля вышэйпаданага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. міністра: 1) ці маніцца ўраз-жа прыступіць да выпаўненьня языковага ўставу аб школах з 31.VI. 1924 г.? 2) ці маніцца ўраз-жа ператварыць польскую школу ў в. Пяскох у беларускую? 3) ці маніцца зьняць грашовыя кары, наложаныя на беларусаў за дамаганьне беларускае школы?

Варшава, 6 лістапада 1924 г.

№ 126—да п. старшыні рады міністраў у справе рабунковага спаганяньня падаткаў.

У часе адсутнасьці гаспадара дому Ігната Лашука (в. Макашы, Гарадзейскае гм., Нясьвіжскага пав.), у кватэру яго прыйшоў пісар Гарадзейскае гміны разам з солтысам вёскі Макашы і, пагражаючы рэвальвэрам, які дзяржаў у руцэ, прымусіў солтыса сарваць замок і адчыніць скрыню. Гэтак, адчыніўшы скрыню, былі ўзяты ляжаўшыя тамака рэчы, а іменна: суконнае зімовае пальто, 6 фунтаў лёну, 28 аршынаў палатняных рушнікоў і 50 руб. золатам. Пасьля гэтыя рэчы былі прададзены ў Гарадзеі быццам-то дзеля аплаты падаткаў бяз ведама іх уласьніка. Калі Лашук, вярнуўшыся да хаты, даведаўся аб зрабаваньні ў яго вопраткі і грошы, ён пайшоў на пастарунак паліцыі, дзе камандант паліцыі сунуўся да селяніна і пачаў яго лаяць ды страшыць, што пасадзе яго на 2 гады ў вастрог. У рэзультаце паліцыя сьпісала два пратаколы і загадала Лашуку падпісацца, не пазнаёміўшы яго з зьместам пратаколаў.

Дзеля вышэйшага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. старшыні рады міністраў: 1) ці маніцца кінуць спаганяньне падаткаў апісаным спосабам? 2) ці маніцца вярнуць зрабаваныя ў Лашука рэчы і грошы? 3) ці маніцца навучыць паліцыю, што нельга ёй нікога прымушаць да падпісу пратаколаў, не падаўшы зьместу іх зацікаўленай асобе?

Варшава, 6 лістапада 1924 г.

**№ 127**—да п. старшыні рады міністраў у справе надужыцьцяў пры спагоне падаткаў дарогай эгзэкуцыі.

У сувязі з фіскальнай палітыкай цяперашняга ўраду, беларускае сялянства перагружана ўсялякага роду падаткамі. Падаткі дзяржаўныя, соймікавыя і гмінныя, ды сьведчаньні натурай — гэткія вялікія, што перавышаюць усе даходы і крыніцы заробку жыхароў вёскі, дый дзеля гэтага сяляне ня ў сілах іх плаціць. Упорлівасьць скарбовых ўладаў пры спагоне падаткаў заходзе гэтак далёка, што ў платніка бяруць нават апошняга каня, без якога ня можа быць гутаркі аб істнаваньні вясковае гаспадаркі. Дык у платніка забіраюць апошнюю рабочую сілу, дзякуючы якой селянін можа дабываць мінімум засобаў дзеля свайго істнаваньня. Такое паступаньне скарбовых уладаў як-быццам сьведчыць аб тым, што дзяржава больш ня будзе трэбаваць падаткаў ад таго платніка, у якога ўзялі каня. Ці запраўды ўрад мае гэткія мяркаваньні? Аднак, не падлягае ніякаму сумліву, што дзяржава будзе трэбаваць падаткаў стала і ў усё вялікшай суме. Ці, ў такім прыпадку селянін, у якога раз ужо забралі апошняга каня дзеля заплаты падатку, здолее больш плаціць якія-колечы падаткі?

На доказ гэтага падаем наступны факт:

7 лістапада с. г. ў вёску Новакорніна, Лосінскае гм., Бельскага пав., прыбыў войт гміны п. Сіманенка з пісарам, 4-ма паліцыянтамі і 2-ма асобамі, невядомага паходжаньня (праўда-падобна, польскімі вывядоўцамі)—ды пачаў забіраць у сялян інвэнтар і хатнія рэчы на пакрыцьце падаткаў. У Піліпа Ігнатовіча ўзялі апошнюю кабылу і сказалі, што ён павінен будзе йшчэ плаціць па 5 зл. у дзень за корм для яе. У адсутнасьці гаспадара хаты Клемэнса Франкевіча сказаныя асобы ўвайшлі ў яго хату, тапаром высрубілі дзьверы камоды і ўзялі вопратку. Таксама ў адсутнасьці ў хаце Грыгора Самацюка ўсадзілі ў хату праз вакно хлапца Грыгора, якому загадалі адчыніць дзьверы, а тады ўзялі матар'ял на порткі. Вярнуўшыся ў хату, Г. Самацюк выкрыў, што не стае 20 даляраў, якія прыслаў яму сын з Амэрыкі. Такім спосабам абабралі блізу ўсю вёску.

Дзеля вышэйшага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. старшыні Рады міністраў: 1) ці маніцца пакінуць падобны спагон падаткаў? 2) ці маніцца ўраз-жа вярнуць Ігнатовічу забраную кабылу і нагарадзіць зробленую яму крыўду? 3) ці маніцца вярнуць усе рэчы і грошы, забраныя ў жыхароў в. Новакорніна? 4) ці маніцца пакараць войта гм. Лосінкі за зробленыя надужыцьці?

Варшава, 11 лістапада 1924 г.

№ 128—да п. міністра рэлігійных вызнаньняў і народнае асьветы ў справе невыпаўняньня языковага школьнага ўставу з 31 ліпня с. г.

У мысьль языковага школьнага ўставу, з 31 ліпня с. г., сяляне вёскі Пясочна, Мірскае гміны, Нясьвіжскага пав., 14 жніўня с. г. зрабілі прыгавор аб ператварэньні істнуючае ў в. Пясочна польскае школы ў беларускую. Адносная паданьне і прыгавор гэны былі пераслалы школьнаму інспэктару ў Нясьвіжу. З прычыны адсутнасьці адказу ў працягу месяца, сяляне паслалі да школьнага інспэктара дэлегацыю; інспэктарка п. Пятроўская заявіла дэлегацыі, што сёлетні год зьяўляецца „падгатаваўчым“, і дзеля гэтага яна ня споўніць просьбы жыхароў аб ператварэньні польскае школы ў беларускую, а цяпер яны павінны пасылаць дзяцей у польскую школу, гдзе яна ўвядзе дзьве гадзіны на тыдзень расейскае мовы.

Дзеля вышэйшага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. міністра: 1) ці маніцца ўжо сёлета прыступіць да выпаўненьня языковага ўставу, які Сойм зацьвярджаў з такой вялікай пасьпешнасьцяй? 2) ці маніцца ўраз-жа ператварыць польскую школу ў вёсцы Пясочна ў беларускую школу, згодна з абязываючым уставам?

Варшава, 11 лістапада 1924 г.

***Ніколі не зьнішташай сваей беларускай газэты! Прачытаушы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнау прауду аб жыцьці свайго народу і даведауся, што робіцца на сьвеце!***

# Заражаючы прыклад.

„Rzeczypospolita“ піша, што дэпутат Вежбіцкі, **адзіны** прадстаўнік палякоў у латвійскім Сойме, аддаецца пад суд за дзяржаўную здраду.

Што-ж такое зрабіў адзіны прадстаўнік палякоў у Латвіі, каб урад „zaprzyjaźnionej“ з Польшчай дзяржавы абвінаваціў яго ў найцяжэйшым з палітычных праступленьняў, якое ведае Ўгалоўны Кодэкс?..

Польская газэта з зразумелым абурэньнем дадае, што пасол паляк прыцягнуты ў суд за тое, што ён „выступаў (у Сойме) проці надужыцьцяў латвійскай адміністрацыяй“ у „польска-крэсавым“ павеце Латгаліі.

Нават у Польскай Рэспубліцы ўрад ня цягне ў суд паслоў меншасьцяў **беспасярэдна** за выступленьні проці адміністрацыі на „Крэсах“. І, калі-б гэта праўда, дык для абурэньня на латвійскую дзяржаву была-бы поўная падстава.

Але, разабраўшыся ўва ўсей гэтай справе, мы ўбачым, што газэта п. Карфантага (былая п. Строньскага) папросту лжэ, узводзячы паклёп на латвійскі ўрад і нешта ўкрываючы з „выступленьняў“ пасла Вежбіцкага. Віленскія польскія газэты пацьвярджаюць гэта, падаючы вельмі цікавы матар'ял аб дзеяльнасьці і... „пяяльнасьці“ польскай меншасьці ў Латвіі, правадыром якой і зьяўляецца п. Вежбіцкі.

---

Справа ў тым, што 6 гмінаў Ілукштскага павету Латгаліі, якія падыходзяць да самай Дзьвіны і захапляюць значную частку места Дзьвінска, латвійскія і польскія палякі лічаць „польскімі“, пры гэтым—„польскімі“ ня толькі **нацыянальна**, але і... **дзяржаўна**!

Лічаць **нацыянальна-польскімі** — ня гледзячы на тое, што польскі элемэнт у латгаліі, як і ў Літве, Беларусі і Ўкраіне, складаюць толькі **абшарнікі**; што-ж датычыць запраўднага нацыянальнага складу гэтых „польскіх“ паветаў, дык каму-ж ня ведама, што гэта, асабліва ў паўдзённых гмінах,—нашыя браты — **самыя чыстакроўныя беларусы**!.. Гэта-ж вельмі ярка сцьвярджае і карэспандэнт „Słowa“, прагаварыўшыся прастадушна, што „люд цёмны (!)... сам у шмат выпадках **адракаецца ад польскасьці**, як чорт ад сьвянцонай вады“...

Лічаць **„дзяржаўна-польскімі“**, ня гледзячы на тое, што ўсходнія граніцы Польшчы „аканчальна зацьверджаны“ Радай Амбасадораў 14 сакавіка 1922 г., і ўся Польшча лічыць гэта найвялікшым пасьпехам польскай дыпляматыі!..—Ня гледзячы і на добрасуседзкія адносіны паміж Польшчай і Латвіяй...

---

Усю справу падняў на сваю галаву сам пасол Вежбіцкі, падаўшы інтэрпэляцыю ў Сойме.

На што-ж скардзіўся польскі пасол Вежбіцкі ў латвійскім Сойме?—Ды як заўсёды кожны добры паляк: на тыя надужыцьці адміністрацыі, якія робяцца не на карысьць палякоў.

Справа ў тым, што ў першыя часы істнаваньня Латвіі, а перад усім — у часы бытнасьці ў Латгаліі Польскіх войск, польская ўлада (з мясцовых абшарнікаў, як гэта было ўсюды на „Крэсах“...)—пазапісывала ўсё адвечна-беларускае сялянскае насяленьне нашых „Крэсаў“—палякамі. Пасьля таго, як гэтыя беларускія гміны аказаліся ў граніцах Латвіі, пачалася ў гэтай дэмакратычнай рэспубліцы паміж усімі дужэйшымі нацыянальнасьцямі **запраўдная барацьба за беларускія душы.** Мы ня будзем тутака разглядаць працяг і мэтады гэтай цікавай барацьбы, ці „паляваньня“ на беларусаў у Латвіі. Для зразуменьня польскай справы ў Латвіі і ўсяго інцыдэнту з п. Вежбіцкім даволі сказаць, што латвійская ўлада пачала перагляд усіх тых пашпартоў, паводле якіх амаль ня ўсё насяленьне Латгаліі аказалася польскім.

Вось, з прычыны „надужыцьцяў“ пры гэтым пераглядзе пашпартоў, на якія абурыўся адзіны прадстаўнік польскай меншасьці ў Латвіі п. Вежбіцкі, і раскрылася ў латвійскім Сойме нешта вельмі цікавае.

Вось, што піша аб гэтым паседжаньні Сойму карэспандэнт „Słowa“.

У адказ на інтэрпэляцыю п. Вежбіцкага, міністар унутр. спраў сцьвярдзіў, што „ў павеце Ілукштскім ідзе гарачая агітацыя, маючая мэтай **апалячаньне** мясцовага (беларускага!) насяленьня“. А на чале гэтай арміі палянізатараў—ксяндзоў і польскага вучыцельства—стаіць якраз п. Вежбіцкі.

Пасол Вежбіцкі ўрачыста заявіў, што ён **„да ніякага палянізаваньня насяленьня не прылажыў сваей рукі“**.

Але вось другія паслы сцьвярдзілі нешта іншае.

Пасол Гайлітс заявіў, што пасол Вежбіцкі ня толькі агітуе на мітынгах, як дэпутат, але і стаіць на чале **тайнай арганізацыі**—з сядзібай цэнтралі ў Дзьвінску, і што гэтая арганізацыя мае мэтай нешта большае за палянізаваньне мясцовага насяленьня культурна-школьна-касьцельнымі мэтадамі ў межах Латвійскай Рэспублікі, але — йдзе шмат далей, бо імкнецца зусім выразна **да адарваньня гэтых гмінаў ад Латвійскай дзяржавы**.

Другі пасол таксама сцьвярдзіў наагул у палякоў імкненьне палянізаваньня ўсіх.

Трэці заявіў, што палянізацыя на належачых цяпер да Латвіі абшарах вядзецца ўжо даўно, што перашкаджала ёй толькі... маскоўшчына.

Пасол Кубніс, селянін, сцьвярдзіў, што сам бачыў у польскай школе карты Польшчы з далучанай да Польшчы Латгаліяй, ці нават усей Латвіяй.

Дык вось, зроблены адзіным прадстаўніком палякоў, п. Вежбіцкім, закід латвійскаму ўраду „ў сыстэматычным выкараненьні і нішчэньні польскасьці ў Латгаліі“ давёў да раскрыцьця нечага вельмі цікавага. Перад усім, як **сцьвярджае карэспандэнт „Słowa“**, процант польскіх пашпартоў у гэтых гмінах пасьля перагляду—з 50% упаў да 5%!., а да таго само насяленьне „ў многіх выпадках адракаецца ад польскасьці, як чорт ад сьвянцонай вады“.

Пасьля ўстанаўленьня гэтага самім польскім ка-

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Манаполія на сернічкі.

Урад падаў у Сойм законапраект аб манаполіі скарбу на фабрыкацыю сернікаў.

### Лічба безработных.

Лічба безработных у Польшчы ў працягу 3-х апошніх месяцаў, як падае „Усх. Аг.", зьменшылася на 12%, гэта значыць, што безработных усяго цяпер у Польшчы 144 тысячы.

### Кампэтэнцыя ваяводаў.

Закончылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў розных міністэрстваў у справе кампэтэнцыі ваяводаў. Пастаноўлена, што ваяводы маюць права выдаваць загады ўсім урадавым установам, без паразуменьня з адпаведнымі міністэрствамі. Мае гэта мэтай „аб'яднаньне і хуткасьць у урадаваньні"...

### Забойцы ксяндза Баневіча.

„Dz. Wil." падае, што ў справе забойства кс. Баневіча ў Кемялішках арыштаваны Францішак Аўгул і Антон Валодзька. Абодвум закідаецца гэтае забойства.

### Яшчэ напад.

У ноч на 18/XI трое бандытаў, узброеных вінтоўкамі і рэвальвэрамі, напалі на дом Мары Пашук у в. Навасёлкі (Сьвянцянскага пав.). Зьвязаўшы гаспадыню, бандыты абрабавалі дом і ўцяклі.

## Заграніцай.

### Новая „балтыцкая" канфэрэнцыя.

На 7.XII назначана ў Гэльсінгфорсе (Фінляндыі) нарада экспэртаў Фінляндыі, Латвіі, Эстоніі і Польшчы—дзеля падгатоўкі матар'ялаў да намечанай на 12 і 13 таго-ж сьнежня канфэрэнцыі міністраў загран. спраў гэтых дзяржаў.

### Водгукі „пісьма" Зіноўева.

Урад Балдвіна даручыў спэцыяльнай камісіі разгляд усей справы, зьвязанай з так-званым пісьмом Зіноўева. Старшынёй камісіі зьяўляецца сам міністар загран. спраў, Чэмбэрлен, а сябрамі — 3 сябры габінэту.

### Скандалы ў Эстонскім Сойме.

На адным з апошніх паседжаньняў Эстонскага Сойму мелі мейсца нашумеўшыя скандалы... У выніку—2 дуэлі паміж міністрамі і дэпутатамі.

### Рэвалюцыйны рух у Гішпаніі.

Ваенны трыбунал апраўдаў 4 галоўных кіраўнікоў вайсковага бунту ў Вэра. Лічучы, што гэта—знак істнуючага ў арміі наагул настрою. Гэты прысуд не зацьверджаны галоўным начальнікам округа, які перадаў усю справу на аканчальнае вырашэньне ў Мадрыт.

У размове з карэсп. амэрыканскай газэты адзін вядомы гішпанскі дзеяч сьцьвярдзіў, што ў Гішпаніі істнуе і расьце рэвалюцыйны рух, які ня мае пасьпеху дзеля адсутнасьці арганізацыі...

У Барцэлёне ізноў узьняліся бітвы на вуліцах. Улада выслала проці паўстаўшых работнікаў артылерыю і кавалерыю. „Паўстаньне здушана". Ці на доўга?..

### У Нямеччыне перад выбарамі.

На гмінных і мястовых выбарах у радзе складовых частак Нямеччыны, як Ангальт, Дэссаў і інш., перамагаюць сярэднія дэмакратычныя партыі, адкідаючы абодва крайнія флянгі.

### Урадовы крызіс у Аўстрыі.

Як ведама, забаставаўшыя чыгуншчыкі звалілі габінэт Зэйпеля. Забастоўка спынена пасьля поўнае перамогі работнікаў. Пасьля гэтага прэзыдэнт ізноў запрапанаваў Зэйпэлю злажыць урад, але той рашуча адмовіўся ад гэтага.

Галоўная камісія Нацыянальнай Рады даручыла стварэньне габінэту д-ру Рамке, які прыняў становішча канцлера і будзе прадаўжаць справу „санацыі" скарбу Аўстрыі.

У працягу 2-х дзён мае быць зложаны новы габінэт.

### Амністыя ў Францыі.

Як ведама, вельмі моцныя ў францускім сэнаце нацыяналісты - „пуанкараўцы" праз увесь час пагражалі, што адкінуць прыняты парлямантам закон аб шырокай амністыі за палітычныя праступленьні — нават за тыя, якія ў часе вайны былі заклеймены, як здрада айчыны. Цэлы рад выдатных дзеячоў — праціўнікаў вайны і прыхільнікаў паразуменьня з Нямеччынай (а перад усім — з левага і сацыялістычнага лагеру) былі абвінавачаны ў гэтай дзяржаўнай здрадзе і нават выгнаны з межаў Францыі... Сярод іх—многа блізкіх супрацоўнікаў і асабістых прыяцяляў сяброў сёньняшняга ўраду... Закон аб амністыі быў адным з крокаў на шляху да зьліквідаваньня ваеннай, варожай да Нямеччыны псыхалёгіі, на які рашуча ўзышоў урад п. Эрыо — у барацьбе з падтрымліваючымі гэтую „ваенную псыхіку" нацыяналістамі.

Лічбы галасаваньня гэтага баявога закону ў сэнаце ясна паказываюць, што сталася з „большасьцю нацыянальнага блёку" ў гэтай „цытадэлі п. Пуанкарэ": 176 галасоў падана за амністыю „здраднікам", 64 проці.

Закон прыняты...

### Прамова Эрыо.

Адказываючы на інтэрпэляцыі ў Парляманце, Эрыо заявіў, што Нямеччына акуратна плоціць кантрыбуцыю—паводле „пляну Доўса". Горш стаіць справа разбраеньня Нямеччыны... Францыя лічыць, што, уваходзячы ў склад Лігі, Нямеччына падпарадкуецца ўсім вымаганьням статуту Лігі. Адносіны з Англіяй—найлепшыя.

Прызнаньне ССРР — канешнасьць, з пункту гледжаньня эканамічнага, палітычнага і ваеннага. На закіды п. Пуанкарэ, Эрыо сьцьвярдзіў, што ўрад зрабіў усё, каб актам прызнаньня не пакрыўдзіць францускіх грамадзян.

### Француская пазыка ў Амэрыцы.

Францускі ўрад пазычыў 100 міл. даляраў у Амэрыцы (ў прыватным банку Моргана), якая пойдзе на штучнае падтрыманьне курсу францускай валюты...

### Парляманцкая камэдыя ў Італіі.

На канцы апошняга паседжаньня Парляманту—у адсутнасьці апазіцыі—Мусоліні, пасьля сваей прамовы, не дачакаўшыся нават канца дыскусіі, зажадаў выражэньня яго ўраду агульнага даверыя... Але нават гэты „парлямант без апазіцыі" не галасаваў згодна за фашыстаўскі ўрад, — 315 фашыстаў галасавалі за ўрад, 6 староньнікаў Джолітті—проці ўраду; 25 паслоў устрымаліся ад голасу... Апазіцыя налічае 130 паслоў, а ўсяго ў Сойме—532 паслы,—дык...—Дык найцікаўнейшае—у тым, што ў гэткі рашучы мамэнт для Мусоліні ў Сойм не ўвайшло ад яго паслоў з урадавай партыі, апрача фашыстаў нейкая колькасьць правых „лібэралаў"...

### Проці фашыстаў.

У Італіі ўтварылася новая партыя — пад назовам „Нацыянальная унія",—якая мае мэтай барацьбу з фашызмам, як з надужыцьцем нацыянальнай ідэі.

### Турэцкая пагроза Пэрсіі.

У „Руль" наказуюць з Лёндану, што англійскі ўрад вельмі ўстрывожаны весткамі аб перасоўках турэцкіх войск на пэрскай граніцы. У Лёндане баяцца, што Турцыя захоча выкарыстаць крытычнае палажэньне Пэрсіі і можа захапіць сумежны з Турцыяй пэрскі Адзэбэйджан.

### Сьмерць Канстантынопальскага патріарха.

Канстантынопальскі патріарх Грыгор VII памёр.

### Хатняя вайна ў Кітаю.

Губэрнатары правінцыяў Сіняе і Белае ракі ў змове з маршалкам Ву-Пэй Фу (пабітым пад Пэкінам) стварылі ваенны ўрад. Урад месьціцца ў Ушангу і выпусьціў адозву, заклікаючую да няпрызнаньня новага пэкінскага ўраду.

### Вялікі пажар у амэрыканскім месьце.

Вялікае партовае места Нью-Даэрсэй гарыць ужо колькі дзён.

Шмат дамоў і караблёў зьнішчана. Страты — да 2 міліён. даляраў. 7 асоб цяжка ранены.



рэспандэнтам з Латвіі мы можам мець запраўднае паняцьце аб **падставах** польскіх пратэнсіяў на гэныя 6 „польскіх" гмінаў.

---

Але для характэрыстыкі польскай ляяльнасьці,—як на той, таксама і на гэты бок польска-латвійскай граніцы варта адзначыць яшчэ і другія зьвязаныя з справай дэталі.

Пасол Мэеровіц (б. міністар загран. спраў,—дык пэўна-ж ведае, што ён кажа!) сьцьвярдзіў, што „польскі ўрад мае фармальныя пратэнсіі на 6 гмінаў Ілукштск. пав., і што ў гэтых 6 гмінах вядзецца гвалтоўная агітацыя за адарваньне іх ад Латвіі.

Пасол Вежбіцкі з абурэньнем адкінуў гэтыя закіды...

Польскія газэты падаюць гэтыя закіды, як верх недарэчнасьці і палітычнай інтрыгі, маючай мэтай толькі пасварыць дзьве прыязныя дзяржавы. Але вось ёсьць у Вільні п. Обст, які ў сваёй газэце „Dz. Wil." стаіць на старожы польскай дзяржаўнасьці, а перад усім — ляяльнасьці нацыянальных меншасьцяў... у Польшчы. Дык вось п. Обст друкуе „Мэмарыял у справе 6 гмінаў, пав. **Браслаўскага, акупаваных** Латвіяй, які „ў гэтых днях быў аддадзены ў рукі" польскага ўраду.

Мэмарыял падалі палякі (абшарнікі, якія жывуць у Віленшыне, але паходзяць з гэтых самых 6 гмін, „акупаваных Латвіяй", а таксама з... „Інфлянтаў Польскіх" (гэта-ж значыць—амаль ня ўсей Латвіі!).

Гэтыя віленска-латвійскія палякі зьвяртаюцца да Польскага ўраду, каб ён „учыніў крокі дзеля павароту на лона Мацежы гэтых 6 гмін, якія **імкнуцца да Польшчы**"...

Каб падтрымаць гэтае дамаганьне, Мэмарыял высоўвае гэткія „аргумэнты і рацыі":

1) Гэтыя 6 гмінаў былі далучаны сьпярша **па паразуменьню** з Латвіяй да Польшчы, і толькі пасьля ў часе бальшавіцкае навалы ў 1920 г. Латвія скарыстала **з прыпадку слабасьці Польшчы** і заняла іх.

2) Перапісь... п. Асмалоўскага ў 1919 г. „сьцьвярдзіла" гэткі склад насяленьня ў гэтых гмінах: палякоў—53 проц. латышоў—8 проц.

3) Атрыманьне Польшчай натуральнай граніцы ўздоўж Дзьвіны з усіх бакоў вельмі выгадна... для Польшчы, ня кажучы ўжо аб дзьвінскім водным шляху.

4) Валаданьне прадмесьцем Дзьвінска м. Грывай дасьць магчымасьць палякам стварыць цэнтр польскіх культурна-навуковых установаў, які **будзе „promieniować"** ня толькі на м. Дзьвінск, але і „na całe Inflanty Polskie", — гэта значыць папросту палянізаваць усю Латгалію,—як беларусаў, так і латышоў,—ня толькі гэтых 6 гмінаў, але і шмат далей.

5) Далучэньне гэтых гмінаў паложыць канец гвалтам латвійскага ўраду над „польскім насяленьнем" і—дадайма ад сябе—паложыць пачатак гвалтам польскай улады нада беларускім і латышскім...

---

Гэтак **латвіскія грамадзяне**, відаць, толькі часова (?) „бавючыя" ў Віленшчыне, сваім Мэмарыялам перад усім сьцьвярджаюць, што ўсё тое, што ў латвійскім Сойме казаў пасол Мэеровіц і іншыя латвійцы,—праўда... і—што ўсё, што казаў у адказ на іх закіды „адзіны прадстаўнік польскай меншасьці ў Латвіі" п. Вежбіцкі,—**няпраўда.**

Тое, што кажа паціху і робіць хаваючыся польская **тайная арганізацыя** ў Латвіі, на чале якой ня можа не стаяць **адзіны прадстаўнік** палякоў у Латвійскім Сойме,—тое самае кажуць і робяць, тую самую „процідзяржаўную работу" разводзяць пазамежамі Латвіі **латвійскія грамадзяне**—аўтары Мэмарыялу.

---

Мы з гарачай сымпатыяй падтрымалі-б усю гэтую працу, усе гэтыя імкненьні прадстаўнікоў польскай меншасьці ў Латвіі, калі-б запраўды справа йшла аб **вызваленьні** з пад латвійскага „berła" **польскага** насяленьня, але ня... польскіх абшарнікаў—жываедаў, якія дамагаюцца толькі **павароту сваіх маёнткаў і магчымасьці сацыяльнага і нацыянальнага ўціску і вызыску беларускага і латышскага сялянства.** Але ўва ўсей гэтай справе цікава сьцьвярдзіць і ўслоўленую польскую „ляяльнасьць", якую задэманстравалі перад усім сьветам тыя самыя палякі, што сваім нацыянальным меншасьцям заўсёды вытыкаюць сумліўную ляяльнасьць да Польскай дзяржаўнасьці, непрызнаваньне „сьцьверджаных аканчальна" польскіх граніцаў, зносіны з замежнымі ўрадамі і гэтым падобныя праступленьні.

Можам сказаць, што нашыя дэпутаты ў польскім Сойме, як і ўкраінцы, — больш шчырыя, больш адважныя і адкрытыя, чым польскія — ў Латвійскім Сойме! Мо' ня ўсе заявы іх **у Сойме** зусім ляяльныя, але яшчэ ня было пакуль што выпадку, каб беларусы грамадзяне Польшчы—**зьвярталіся да ўраду замежнай дзяржавы** з дамаганьнем далучэньня іх гмінаў ці паветаў да гэтай дзяржавы і адарваньня іх дзеля гэтага ад Польшчы, ня гледзячы на **заражаючы прыклад,** які даюць нам самі палякі!

---

Праф. Казлоўскі — ў сваей першай лекцыі ў Пражскім Унівэрсытэце — казаў, што **сусьветная роля і значэньне Польшчы і яе нацыянальнай гісторыі і думкі** — у тым, што паняволеная і вызваліўшаяся сама, яна выпрацавала **правільныя мэтады вызваленьня,** якімі, як маючымі **агульную вартасьць і значэньне,** могуць і будуць карыстацца **і ўсе іншыя паняволеныя народы** — у **імкненьні да свайго вызваленьня!..**

Вось, гэтыя словы прыходзяць самі сабой на памяць, калі падумаеш аб прыкладзе польскае нацыянальнае барацьбы... ў Латвіі! **В.**

